Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош. |
|---|---|---|---|

№ 33 (85) | Вільня, 7-га сьнежня 1935 г. | Год 3-ці.

## 120.000 (?) беларускіх дзяцей бяз роднае школы!

26 лістапада 1935 г. „Kurjer Wileński" зьмясьціў артыкул пад назовам: „Школа, яе недахопы і патрэбы". Артыкул гэны мае быць у скарочаньні дакладам Куратара Віленскага Школьнага Вокругу п. К. Шэлёнгоўскага на паседжаньні паслоў і сэнатараў з Паўночна-Усходніх земляў (прасцей кажучы з Беларускіх этнографічных земляў), якое адбылося ў Вільні пад старшынствам сэнатара С. Эрэнкройца.

Прыймаючы пад увагу, што ў артыкуле гэным закранена найболш балючая для нас справа — справа беларускае школы, мы змушаны затрымацца над ёй крыху даўжэй.

Пан Куратар у сваім дакладзе стараўся, здаецца, нарысаваць сапраўдны малюнак школьнае асьветы ў Віленскім Школьным Вокрузе, падаючы цэлы рад лічбаў, якія прамаўляюць самі за сябе.

Агульны малюнак, нарысаваны п. Куратарам, прадстаўляецца вельмі і вельмі сумна: 66.993 дзяцей у гэтым годзе не трапіла ў школу наагул, на аднаго вучыцеля прыпадае больш 70 дзяцей (дакладна 71,3), памяшчэньні пачаткавых школ далёка не адпавядаюць свайму назначэньню — 660 школ займаюць толькі па 30 квадратных мэтраў, а 44 школы маюць на'т меней 24 кв. мэтраў плошчы.

З дакладу п. Куратара акром таго вынікае, што калі ня зьменіцца тэмп будаваньня школьных памяшчэньняў, то для таго, каб іх упарадкаваць трэба будзе чакаць *аж 30 гадоў* і то пры ўмове, калі ня будзе зусім прыросту дзяцей. Калі-ж прыняць пад увагу, што такі прырост існуе і існаваць будзе, то на ўпарадкаваньне школьных памяшчэньняў відаць прыдзецца чакаць шмат даўжэй, — мо' 50, а мо' і 100 гадоў!

Адначасна пан Куратар сьцьвердзіў, што большасьць школаў так-жа не забясьпечана неабходнымі школьнымі прыладамі.

Дык калі прыняць пад увагу толькі пералічаныя недахопы (а іх падана ў дакладзе шмат больш), то стане яснай тая *галоўная балячка* школы, на каторую наракаюць усе — і бацькі, і вучыцялі, і ўрэшце здаецца сама школьная ўлада, гэта — вельмі нізкі навуковы ровень пачаткавых публічных школаў — ды нярэдка спатыканы паўторны анальфабэтызм.

Ці-ж можна пры такіх умовах спадзявацца чагосьці лепшага, зьбіваючы сотні кволых дзяцей у неадпаведных памяшчэньні? Ці-ж пры такіх умовах можа быць мова аб нейкай элемэнтарнай школьнай гігіене?

А 70 дзяцей на аднаго вучыцеля?... Якіх-жа мы яшчэ вынікаў хочам? Маем тое, што зьяўляецца лёгічнай і сумнай неабходнасьцяй: масавае заражэньне дзяцей трахомаю і іншымі хваробамі. Маем вялікі працэнт перадчасна гаснучых маладых дзіцячых організмаў. Маем урэшце ня меншы працэнт анэмічных, хворых і целам і душою вучыцялёў і вучыцеляк.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Разглядаючы нацыянальны бок насельніцтва нашага краю п. Куратар сьцьвердзіў, што аж *128.740 дзяцей* (на агульную лічбу 390,000) — *гэта дзеці, якіх роднаю моваю ёсьць мова беларуская,* а ўсіх школаў, дзе ў той ці іншай форме выкладаецца беларуская мова, ёсьць *69.* Шкада, што пан Куратар не падаў лічбы гэтых *шчасьлівых* дзяцей, каторыя вучацца ў вышпаданых школах. Аднак думаем, што ня зробім памылкі, калі ў сярэднім на кожную школу палічым па 120 дзяцей. Гэта нам дасьць (хіба-ж максімальную лічбу) толькі 8280. Такім чынам застаецца ня больш ні менш *як 120.000 беларускіх дзяцей* (паводле ўрадовай статыстыкі), якія, ня гледзячы на элемэнтарныя вымогі пэдагогікі, пазбаўлены магчымасьці вучыцца ў роднай мове.

П. Куратар зьдзіўлены, што беларусы ня толькі не дамагаюцца школы ў роднай мове, але наадварот даволі часта просяць увядзеньня выкладовае мовы *польскае.*

З гэтага п. Куратар робіць вывад, што ступень нацыянальнага ўсьведамленьня ў беларусаў вельмі і вельмі малая.

У адказ на гэта можна было-б паставіць адно пытаньне: *а ці шмат жаданьняў Беларусаў, якія дамагаліся школы ў роднай мове, школьная ўлада здаволіла?*

Слушна зазначае „Беларуская Крыніца" (1. XII. 35. № 45), што „адносіны польскіх школьных уладаў да школьных патрэбаў беларусаў беларускія сялянскія масы зьнеахвоцілі, і яны, ня верачы ў тое, што гэтыя ўлады споўняць іх культурныя жаданьні і патрэбы, масава пераходзяць на асьвету пазашкольную, часта ўважаючы яе, як свайго роду конспірацыю". Але гэта, пры існуючых адносінах, ясна, ня можа задаволіць культурна-прасьветных нашых патрэбаў. Пазашкольная асьвета ні ў якім выпадку не заменіць школы. Вось чаму мы павінны далей вясьці змаганьне за родную школу, а складаньне дэкларацыяў, бяз увагі на папярэдні сумны досьлед, хай будзе найлепшым адказам, што нацыянальная сьвядомасьць у нас ёсьць. Калі-ж і гэтым разам нашы слушныя *дамаганьні* ня будуць споўнены, хай тады ніхто нам не асьмеліцца сказаць аб нашай пасыўнасьці і несьвядомасьці.

## Пагроза новай сусьветнай вайны.

У францускіх палітычных кругох прыдаюць вялікае значэньне сустрэчы Лявaля з Хорам, каторая мае наступіць у суботу, у часе кароткага прабываньня ангельскага міністра ў Парыжы. Яшчэ да 12 сьнежня, калі зьбярэцца камітэт 18, павінны быць прыняты ўсе меры, для асягненьня згоднага вырашэньня італа-абісінскага канфлікту. Эмбарго на нэфту (забарона ўвозу ў Італію нэфты) можа паменшыць шансы мірнага вырашэньня канфлікту. Па агульнай думцы, суботнія перагаворы абыймуць выключна абісінскія справы, а мэтаю іх будзе апрацоўка формулы, каторая паслужыла-б асновай для спыненьня ваенных дзеяньняў.

У кругох Лігі Народаў усё часьцей гавораць аб тым, што калі італа-абісінскі канфлікт ня будзе зьліквідаваны да 12-га сьнежня, то ўся Эўропа апыніцца ў больш трагічным палажэньні, чымся яна была ў 1914 годзе. Камітэт 18, які 12 г. м. будзе разглядаць пытаньне аб эмбарго на нэфту, можа давясьці да вайны.

Лявaль усімі сіламі імкнецца да таго, каб Муссоліні прыняў тыя ўмовы міру, ці хаця б пераміру, якія высоўвае Англія, аднак, дучэ (Муссоліні) пакуль што ня хоча ісьці на ўступкі і гэта выклікае ў Жэнэве трывогу. У сваю чаргу Англія заяўляе, што на ўступкі ня пойдзе нэгус.

Некаторыя оптымісты пакладаюць вялікія надзеі ў бэльгійскім каралі Леопольдзе, каторы прыбыў на днях у Лёндан для перагавораў па поваду ліквідацыі італа-абісінскага канфлікту з ангельскім каралём Георгам. Як кажуць, кароль Леопольд атрымаў на днях ад італьянскага караля Віктара Эмануіла пісьмо, у каторым, быццам, пададзены ўмовы італа-абісінскага міру, якія могуць быць прыняты Італіяй.

Па другім, аднак, дадзеным, Муссоліні дагэтуль не апрацаваў яшчэ такіх умоваў, бо ён уважае, што Італія можа перамагчы ня толькі Абісінію, але і Англію.

У Жэнэве дзеля гэтага лічаць, што мір у Эўропе вісіць на валаску (жэнэўскія кругі пераконаны, што 12 сьнежня эмбарго на нэфту будзе ўведзена аднагалосна).

## Проект Лявaля.

Па паведамленьні газ. „Стар", Лявaль апрацаваў проект пераміру паміж Італіяй і Абісініяй, якое магло-б быць зьдзейсьнена перад 12 сьнежня. Італія павінна спыніць ваенныя дзеяньні, узамен чаго будуць адменены нэфтныя санкцыі.

Паведамляючы аб гэтым, „Стар" дадае, што гэты проект сустрэўся ў некаторых кругох з крытыкай; кругі гэтыя дапушчаюць, што Італія можа выкарыстаць гэтае перамірра для папаўненьня сваіх запасаў нэфты.

Актыўнае ўчасьце ў проектах мірнага вырашэньня канфлікту між Італіяй і Абісініяй прыймае таксама Бэльгія.

## Плян падзелу Абісініі

„Базелер Нахрыхтэн" цьвердзіць, што экспэрты ангельскага і францускага міністэрстваў замежных справаў Пэтэрсон і Сэн Кентэн, якія знаходзяцца ў Парыжы, заняты цапер абгаворкай пляну аб тэрыторыяльных уступках у Абісініі на карысьць Італіі. Гэны плян зьмяшчаецца ў тым, што Англія згаджаецца ўступіць Італіі частку абісінскай тэрыторыі, якая граніцыць на паўночным захадзе з італьянскай Эрытрэяй.

Па словам газэты, аснаўная труднасьць зьмяшчаецца ў пытаньні аб калідоры, які па дамаганьнях італьянцаў павінен прайсьці па абісінскай тэрыторыі і злучыць Эрытрэю з італьянскім Сомалі. На гэта не згаджаюцца ангельцы, каторыя не хочуць, каб між ангельскім Сомалі і Суданам прайшоў пояс італьянскіх колёніяльных земляў.

## Пазыцыя Рыму?

У палітычных кругох Рыму, як паведамляюць францускія газэты, настроі сталіся больш мірнымі. На гэта п дзеілі відаць перагаворы ангельскіх і францускіх экспэртаў у Парыжы, якія дазваляюць дапушчаць, што Англія і Францыя гатовы шукаць плятформу для мірных перагавораў з Італіяй да мамэнту правядзеньня ў жыцьцё нэфтных санкцыяў. Зразумела, што Італія цікавіцца вынікамі парыжскіх перагавораў і будзе гатова пайсьці на ўступкі.

Па другім весткам, у Рыме ўважаюць, што занятая частка правінцыі Цігрэ ня можа быць эвакуавана, бо-ж насельніцтва гэтай правінцыі выявіла сваю лёяльнасьць адносна Італіі.

Італія гатова заключыць мір пры наступных умовах:

Да італьянскіх дамініяў павінны быць далучаны: часьць правінцыі Цігрэ, правінцыя Данакіль, правінцыя Аусса, якая граніцыць з францускім Сомалі, суседняя з ёю правінцыя Гаррар, правінцыя Огадэн, якая граніцыць з брытанскай калёніяй Кэнія, правінцыя Балі Боран і правінцыя Каффа, якая граніцыць з брытанскім Суданам.

## З працэсу аб забойстве міністра Перацкага.

Пасьля рэвэляцыйных паказаньняў абвінавачанага Мыгаля і па закончаньні прачытваньня паказаньняў іншых абвінавачаных, нехацеўшых гаварыць папольску, Варшаўскі Акружны Суд выклікаў на 26 лістапада першую (варшаўскую) групу сьведкаў у ліку 24-х асобаў, сярод якіх: возны Таварыскага Клюбу Язэп Заёнц, шофэр міністра Перацкага Станіслаў Вітульскі, кельнэр клюбу Адам Давда, даглядчык дому Ян Дадас, возны японскае амбасады Францішак Выўроцкі, паліцыянт Станіслаў Багінскі, старшы паліцыянт Упадыслаў Обрэмбскі, падстрэлены ў руку ўцякаўшым забойцаю, Станіслаў Кусьмерскі, браты Вінцэнты і Казімір Кухарскія, паліцыянт Балеслаў Філіпюк. Усё гэта учасьнікі пагоні за ўцякаўшым забойцаю. Далей у сьпіску сьведкаў фігуруюць: даглядчыца дому № 5-а на вуліцы Окульнік Зофія Бандурская, агент тайнае паліцыі Кароль Бартэль, паліцыянты Тодар Наркевіч і Казімір Кузьміцкі, два дактары, рабіўшыя апэрацыю выйманьня кулі з чэрапу мін. Перацкага, затым інспэктар паліцыі Язэп Пёнткевіч, а таксама група паліцыянтаў —учасьнікаў агляду месцаў забойства і ўцяканьня праступніка.

Справаздаўца „Gazety Polskiej“ гэтак апісвае ажыўленьне на лаве абвінавачаных:

— „Сягоньня ўсе абвінавачаныя знайдуцца разам на судовай салі. Гэтае іхняе спатканьне, пасьля рэвэляцыйных суботніх паказаньняў (абвінавачанага) Мыгаля, выклікае вялікае зацікаўленьне, асабліва дзеля ўхіленьня ранейшага распараджэньня Суда датычна разьмяшчэньня эскорты на лаве абвінавачаных. На пачатку працэсу абвінавачаныя былі адгароджаны адзін ад аднаго паліцыянтамі. Паліцыянты абкружаюць толькі бар‘еры лавы абвінавачаных. Падсудныя маюць сягоньня магчымасьць абмяняцца некалькімі словамі першы раз ад мамэнту арыштаваньня. Дык і запанавала паміж імі вялікае ажыўленьне. Усе размаўляюць, вітаюцца, пастукваюць адзін зднаго па плечах. Толькі Мыгаль робіць уражаньне крыху зьбянтэжанага і як быццам адасобненага. Гаворыць ён аднак-жа даволі доўга і папрыяцельску з сядзячым побач Качмарскім, якога абцяжыў даволі моцна. Карпынэць сардэчна абнімаецца з Клымышыным, Лэбэд штосьці доўга шэпчацца з Гнаткіўскаю, Рак з Зарыцкаю, Бандэра гаворыць з Підгайным, а пасьля з Лэбэдэм .

Адвакат Ганкевіч папрасіў слова ў справе пастановы суда аб скасаваньні ізоляцыі падсудных на лаве абвінавачаных і заявіў:

— У сувязі з апошняю пастановаю Высокага Суда, ад імя ўсяе абарончае лавы, зьвяртаюся з просьбаю аб выданьні далейшае пастановы ў кірунку скасаваньня ня толькі ізоляцыі падсудных на лаве абвінавачаных, але і ў вастрозе. Гэтыя маладыя людзі ўжо паўтара года сядзяць зусім ізаляванымі. На некаторых з іх гэтае адасобненьне адбілася фатальна, хоцьбы ўспомніць аб Чорнію, каторы мусіў быць скіраваным на некаторы час у Творкі. Іншыя абвінавачаныя адчулі ізоляцыю менш страшна, аднак-жа і яны таксама папалі ў стан настолькі вялікага знэрваваньня, што абарона спачатку з трудом магла з імі паразумецца. Дзеля таго, што з тых самых матываў, з якіх ухілена ізоляцыя на лаве абвінавачаных — боязнасьць змовы паміж імі ўжо ня існуе—у імя здароўя абвінавачаных прашу аб скасаваньні ізоляцыі таксама і ў вастрозе. Толькі што даведваюся,—кажа далей адвакат Ганкевіч,—ад абвінавачанага Чорнія, што кіраўніцтва вастрогу дасюль не ўзяло пад увагу распараджэньня Высокага Суда і не дало яму ў камэру таварыша.

Суд заяўляе, што ў гэтай справе патрэбуе інформацыі з вастрогу.

Пракурор Рудніцкі кажа:—Скасаваньне ізоляцыі ёсьць магчымым пастолькі пакольк шкадліва ня ўплыве на самую справу. У інтарэсе правасудзьдзя ляжыць, каб абвінавачаныя былі адасобнены паміж сабою, каб ня даць ім магчымасьці узгодніць паказаньні або змовіцца. Аднак я нічога ня маю проці таго, каб даць ім у камэрах таварыства з ліку іншых арыштованых. Гэткім чынам яны ня будуць ізоляванымі ад людзей, але і ўзаемнае паразумяваньне іх будзе немагчымым.

Пасьля згоды абароны на прапазыцыю пракурора і просьбы яе каб па магчымасьці ў камэры абвінавачаных даданы былі не крымінальныя арыштанты, Суд пастанаўляе скасаваць ізоляцыю абвінавачаных у вастрозе з тым, што ня будуць яны пасаджаны разам.

Затым Суд пераходзіць да азнаёмленьня абвінавачаных з прабегам працэсу ў часе іх няпрысутнасьці на салі. Прэзэс сьцьвярджае, што ўсе абвінавачаныя, апрача Мыгаля, адмовіліся даваць паказаньні папольску. Выясьненьні на украінскай мове ня былі прыняты, таму што ў варшаўскім судзе абавязвае польская мова, а ўсе абвінавачаныя гаварыць папольску ўмеюць. У гэтым ня было ніякіх сумляваньняў. З прычыны адмовы абвінавачаных, апрача Мыгаля, ад паказаньняў, Суд адчытаў іхнія паказаньні, даныя на сьледстве.

Далей суд прыступіў да прачытаньня паказаньняў Мыгаля, даных ім на паседжаньні суда ў суботу 23-га лістапада. Пасьля прачытаньня, прэзэс суда заявіў, што абвінавачаныя маюць права даць дадатковыя выясьненьні, і абвясьціў палудзенны перарыў.

На пасьляпалудзенным паседжаньні цікавым было, паміж іншым, выступленьне адваката Ганкевіча, які запрапанаваў прачытаньне з актаў сьледзтва цэлага раду дакумэнтаў, паказаньняў і корэспондэнцыі паміж абвінавачаным Лэбэдэм і вастрожнымі ўладамі ў доказ таго, што абвінавачаны прабываў год і 5 дзён закованым у кайданы.

На гэта пракурор Жэленьскі адказаў, што ніхто не патрабуе ўтойваць факту налажэньня на абвінавачанага Лэбэда, як і на некаторых іншых абвінавачаных, кайданоў у вастрозе. Факт гэты абапёрты на вастрожным рэгуляміне і акалічнасьцях гэтае справы.— Хай пан абаронца, не забываецца, —сказаў пракурор,—што гэта працэс аб забойсгве міністра Рэчыпаспалітай і што абвінавачаныя былі учасьнікамі тэрорыстычнае змовы. Ці-ж можна дзівіцца, што адносна да іх былі ўжыты дазволеныя і прадбачаныя законам спосабы асьцярожнасьці. Апрача таго важна, што трэ‘ было рупіцца і аб цэласьці самых абвінавачаных, ведаўшых, што ім пагражае высокая кара і могшых парывацца на самасубства.

— Высокі Суд!—сказаў пасьля гэтага адвакат Ганкевіч,—паважаны пан пракурор зьвярнуў увагу Высокага Суда, што тут выступаюць людзі, абвінавачаныя ў забойстве міністра. Я лічу, што няма розьніцы, калі ідзе аб жыцьцё чалавека.

Пракурор Жэленьскі: — Гэта такія заявы, каторыя я хацеў-бы ўжо скончыць. Аднак яны змушаюць мяне даць адказ. У дадзенай справе ідзе ня толькі аб забойства міністра, але і аб тэрорыстычную арганізацыю, якае існуе не ад сяньняшняга дня. Абаронца, успамінаючы, што абвінавачаных трактавалі гэтак спэцыяльна таму, што прадметам працэсу ёсьць забойства міністра Перацкага, абмінуў тую падробнасьць, што гэтыя самыя абвінавачаныя адказваць будуць,— не перад гэтым, праўда, судом,— за сьмерць студэнта Бачынскага і дырэктара гімназіі Бабія. Вастрожныя ўлады споўнілі свой абавязак. Ішло аб тое, каб ня было пакушэньня на жыцьцё абвінавачаных, бо былі сярод іх гэткія, паказаньні якіх былі для арганізацыі нявыгаднымі.

Суд пастанавіў прапазыцыю абаронцы аб прачытаньні дакумэнтаў, як нямаючую давадовага значэньня для справы і нямогучую мець уплыву на прыгавар, аддаліць.

У гэтым месцы адвакат Шлапак стаўляе падобную прапазыцыю аб прачытаньні некаторых бачын актаў сьледзтва на доказ, што таксама і абвінавачаны Карпынэць прабываў у вастрозе ў кайданох.

Суд аддаліў і гэту прапазыцыю.

Адвакат Горбовый прапануе выклікаць, як сьведку, Дзьмітра Грыцэя—адміністратара львоўскага студэнцкага дому, у якім жыў абвінавачаны Бандэра, дзеля устанаўленьня тае акалічнасьці, што абвінавачаны, ў часе ад 18 красавіка да 14 чэрвеня, прабываў заўсёды ў Львове і ня мог езьдзіць у Кракаў і Варшаву. Цяпер Дзьмітро Грыцэй прабывае ў месцы адасобненьня ў Картуз-Бярозе.

Пракурор Рудніцкі: — Акалічнасьць, каторую мае сьцьвярдзіць сьведка Грыцэй, зьяўляецца для справы настолькі паважнаю, што я прылучаюся да прапазыцыі абароны, хоць і спозьнены срок дзеля падаваньня сьведкаў.

Суд пастанаўляе дапусьціць паказаньне сьведкі Грыцэя і даручыць адпаведнаму сьледчаму судзьдзі апытаньне яго пад прысягаю.

(Працяг будзе).



# Адна ноч.

*(Успамін з сусьветнай вайны).*

Нашто выдумваць? Нашто займацца фантазіяй, калі жыцьцё іншы раз стварае вельмі цікавыя гісторыі, ці вярней—гэткія кусочкі гісторыі, якія выглядаюць проста на загадку па сваёй цікавасьці?

Была і ў маім жыцьці адна гэткая цікавая ноч.

Ноч на сусьветнай вайне. Ноч у палявым тэлеграфе, ў самым штабе ковенскай крэпасьці.

Не адну ноч я правёў там.

Розныя бывалі ночы.

Але адна з іх—найцікавейшая.

Можа цікава таксама, як я папаў у штаб крэпасьці? Я — шэры тады расейскі салдат, якіх было мільёны?

Пасьля доўгага бадзяньня з тылавым батальёнам па фронце, пасьля аднаго вядомага адступленьня з-пад Гумбінена з I арміяй генэрала Рэненкампфа і пасьля другога катастрофічнага адступленьня ў складзе 20-га расейскага корпусу генэрала Булгакова, адпачыўшы з месяц у Горадне, папаў я ў красавіку месяцы 1915 году ў штаб аднае асобнае брыгады ў Коўна.

Хочацца расказаць пра ўсё гэта бяз ніякіх лішніх фарбаў, разказаць проста, як яно было.

З Горадна (роднага Горадна, дзе першы раз, і не бяз удачы, я ўзяўся за пісьменьніцкае пяро!) я прыбыў у Коўна.

Спачатку штаб брыгады стаяў у „Новай гасьціньніцы“ ў горадзе. Мяне памясьцілі ў асобным пакоі з высокага росту малайцом — Аляксандрам Мікалаевічам Алфеевым, скончыўшым напярэдадні вайны юрыдычны факультэт Томскага унівэрсытэту. Мілы таварыш быў гэты ніжня-ноўгарадзец Алфееў. Жылі мы з ім дружна.

Аднойчы Алфееў недзе загуляў. Дзьве ночы ня было яго.

На трэці вечар, скончыўшы сваю канцэлярскую работу, я ўвайшоў у „свой“ пакой і застаў Алфеева на каленах перад яго ложкам.

Ён цяжка ўздыхаў і... маліўся.

Я голасна засьмяяўся, павалíўшыся на сваю пасьцель побач.

— Вы мне даруйце,—далікатна, але зусім такі цьвёрда, сказаў Алфееў,—але вы, Макар Мацьвеевіч, *ей Богу*, дурань...

— Ня ведаю, хто з нас больш дурань? — адказаў я, яшчэ больш рагочучы...

А сьмешнага запраўды было мала.

Ужо каля трох тыдняў жылі мы разам з Алфеевым. Малітвы (нават перад абедам і вячэрай) былі ў нас агульныя, *казённыя*. Алфееў, (як і я—грэшны чалавек), — ніколі ў сваім пакоі аб малітвах ня думаў.

А тут раптам—Алфееў, унівэрсант, і... моліцца.

Дый яшчэ як?

Гэта было сьмешна.

Але тое, што асабістым ад‘ютантам у камэнданта ковенскай крэпасьці быў кавалерыйскі паручык Калюбакін, зусім ня было сьмешным.

Гэты Калюбакін усяляк паказваў сваю строгасьць, прычапляючыся да салдатаў за неаддаваньне *чэсьці*, і раз, кажуць, наляцеў на ехаўшага конна казака, якога пацягнуў за гэту самую чэсьць. Казак ахрысьціў Калюбакіна сваім бізуном на галоўнай вуліцы ў белы дзень і ўцёк.

Я сам бачыў Калюбакіна ў штабе крэпасьці з падвязанаю шчакою, яшчэ больш злога, як заўсёды. Можа і праўда, што бінтаваў ён шчаку пасьля казацкай... чэсьці.

Наляцеў на Калюбакіна і мой прыяцель Алфееў, які, адвёўшы душу ў малітве, расказаў, калі я кінуў сьмяяцца, чаму ён моліцца.

— Даўно тут, на тым баку вуліцы, страляе да мяне вокам пакаёвачка адна, — казаў Алфееў, — тры дні таму ізноў вышчарыла зубы. Я не марудзіў. У браму да яе і давай зубы замаўляць. Аж тут, каля гэтага самага нашага вакна, праходзіць Калюбакін. Я зусім забыўся, — кажа Алфееў, — што я бяз шапкі, ўзяў яму быццам пад брыль рукою. Ён падскочыў да мяне:

— Да пустой галавы, кажа, рукі не прыкладаюць. Марш на адзін дзень на гауптвахту!

— Арыштаваў? — зьдзівіўся я.

— Мала гэтага, Макар Мацьвеевіч,—адказвае Алфееў,—ён мне яшчэ і цукру ў зубы даў.

Што Калюбакін быў страшэнным мардабоем, аб гэтым ведаў увесь гарнізон.

Ня меншы мардабой—наш начальнік брыгады палкоўнік Толбузін знайшоў неяк сярод дакумэнтаў фатаграфію Алфеева з унівэрсытэцкім значком на правым баку мундзіра і зараз-жа прагнаў яго з канцэлярыі ў вучэбную каманду, а адтуль паслаў у Маскву ў афіцэрскую школу.

Мы разьвіталіся з Алфеевым мусі назаўсёды.

У траўні месяцы штаб нашае брыгады перайшоў у загарадны двор, які называўся мыза Фрэда.

Працы было заўсёды шмат. Палкоўнік Толбузін наводзіў жах на ўсіх сваёю грубасьцю. Здарэньне памагло мне ўцячы ад гэткага начальніка.

Аднаго дня прыйшла з штабу крэпасьці тэлефонаграма да Толбузіна з пытаньнем, ці няма ў яго чалавека, які ўмее пісаць на машыне?

Толбузін адказаў, што няма. Наш тэлефоністы Шлямаў пытаецца ў мяне:

— Хочаш перайсьці ў штаб крэпасьці?

— Чаму не?—адказваю я.

— Звані зараз-жа да старшага пісара па шыхавой часьці Кавалёва.

— Я ня знаю яго!—адказаў я.

— Дык я крыху знаю, — кажа Шлямаў і выклікае да тэлефону Кавалёва.

— Хто пры апараце?—пытаюся я, прылажыўшы тэлефонную трубку да вуха.

— Старшы пісар Кавалёў, — пачуўся адказ.

— Я рызыкую гаварыць з вамі, ня знаючы вас, выбачайце... Тут была тэлефанаграма, ці ёсьць хто ў нас, што умее пісаць на машыне. Адказана, што няма. А тымчасам я ўмею...

— Як вашае імя і прозьвішча?—перабіў мае трывожныя сло-

